

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№60(573) 27 сакавіка 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617944 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Хотя у заботы нет рублевого эквивалента

**175 миллионов бюджетных рублей потребует реализация Программы государственной молодежной политики на 1993—1994 годы, принятой недавно на заседании Президиума Совета Министров Республики Беларусь.**

Документ обещает, что в ближайшее время молодые безработные смогут запросто приходить в консультационные пункты за рекомендациями психологов и социологов по выбору подходящей профессии и азами профподготовки. Планируется также возродить движение стройотрядов, отстоять от посягательств коммерции детские и юношеские клубы, уделять побольше внимания молодым семьям.

**Ирина ФЕДОРОВА.**

### ...А это уже духовный Чернобыль

**Изуродован памятник жертвам Чернобыля в столичном парке Дружбы народов.**

Сорваны бронзовые детали... Ведется следствие. Но будут ли найдены ночные похитители и не "переплавят" ли они к тому времени бронзу — большой вопрос. Обратившийся в редакцию исполнительный директор Белорусского союза участников ликвидации чернобыльской катастрофы "Припять" Анатолий Боровский просит всех, кто не очерствел сердцем, помочь в восстановлении памятника, ведь до седьмой годовщины трагедии на ЧАЭС осталось меньше месяца. Справки по минским телефонам: 45-15-82, 70-25-53.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### Он решил не сдаваться без боя

**Не утихает конфликт между Сергеем Габрусевым и Могилевским горсоветом.**

Как уже сообщалось, С.Габрусев был освобожден сессией горсовета от должности председателя. Однако он категорически не соглашается с таким решением.

По мнению части депутатов, у С.Габрусева есть все основания постоять за себя. В то время он был болен и имеет подтверждающий документ, выписанный врачами Санкт-Петербурга, где он находился на обследовании. В соответствии же с регламентом сессия должна была по крайней мере его выслушать.

Компромисс пока не найден...

**Борис МИХЕЕВ.**

### "Зайцы" все-таки надежнее?

**Что ни день изымаются поддельные российские купюры достоинством в тысячу и 5000 рублей.**

Недавно они всплыли в Сенненском агропромбанке и Национальном банке Беларуси.

**Сергей ПАВЛОВ.**

### Спорт-экспресс

Футболисты минского "Динамо" провели последний товарищеский матч в Италии и победили команду "Падуя", выступающую в серии "B" итальянского чемпионата, со счетом 1:0.

❑

Хоккейная сборная юношей Беларуси, выступая на чемпионате Европы в группе "С", победила хоккеистов Эстонии — 6:3 и сборную Латвии — 3:2.

❑

В Будапеште закончился второй отборочный тур Кубка Европы по спортивной гимнастике. У мужчин в многоборье первенствовал минчанин Иван Иванков. Третье место у его товарища по команде Андрея Кана.

В аналогичном турнире у женщин белорусская спортсменка Елена Пискун заняла четвертое место, Юля Юркина — восемнадцатое.

### Вкратце

**Журналистам, которые хотят аккредитоваться на первом Национальном конгрессе молодых политиков Беларуси, следует это сделать до 1 апреля.**

Заявки принимаются по адресу: 220016, г.Минск, ул. К.Маркса, 38, комн. 372. Пресс-служба Верховного Совета Республики Беларусь. Справки по телефонам: 29-32-41, 29-39-01.

❑

**Сейм Литвы выступил в поддержку курса президента России Бориса Ельцина.**

Об этом сообщается в официальном заявлении сейма, которое вчера опубликовано в литовских газетах.

❑

**Встреча в верхах лидеров "семерки", которая планировалась на июль, может состояться в более ранние сроки, заявил генеральный секретарь кабинета министров Японии Коно.**

Он уклонился от разъяснений, в каких масштабах и какую конкретно помощь следует ожидать России. Однако ранее источники в японском правительстве сообщали, что речь может идти о сумме примерно в 10 млрд. долларов.

❑

**Парламентская комиссия, которая в течение года изучала документы, связанные с избранием работавшего в Болгарии в 1990—1991 гг. великого народного собрания, пришла к выводу, что мандаты 10 процентов вошедших в него народных представителей были недействительны.**

Из доклада следует, что основная часть допущенных фальсификаций и нарушений была в пользу болгарской социалистической партии.

❑

**В различных районах Анголы идут бои между правительственными войсками и отрядами УНИТА.**

Представитель ангольских вооруженных сил бригадный генерал Жозе Мануэл выразил уверенность, что в ближайшие дни правительство восстановит контроль в провинции Северная Кванза.

❑

**Завершился очередной раунд переговоров по мирному урегулированию в Боснии.**

Руководители делегации правительства Боснии и боснийских хорватов поставили недостававшие подписи под документами, но лидер боснийских сербов Радеван Караджич отказался подписывать, сказав, что "мы вернемся домой и представим этот мирный план на рассмотрение ассамблеи".

❑

**Как сообщил вчера центр управления полетом, с космодрома Плесецк осуществлен запуск экспериментального спутника с помощью новой ракеты-носителя.**

Она разработана в рамках конверсии на базе межконтинентальной баллистической ракеты РС-12М, известной за рубежом как ракета СС-25.



Рисунок Олега ПОПОВА.

### Съезд решает и свою судьбу?

**Собравшись вчера на внеочередной съезд, российские депутаты несколько умерили свой агрессивный пыл по отношению к президенту. Отчего бы это?**

Похоже, холодным душем явилось выступление председателя Конституционного суда Валерия Зорькина. Мягко говоря, суд сделал неожиданный реверанс в сторону президента. После того, как Зорькин сбивчиво и неуверенно оправдался за свое скоропалительное усердие накануне в пользу хасбулатовской команды, некоторые его предложения повергли депутатов прямо-таки в уныние. Что же это за предложения? Зорькин обратился к депутатам с рекомендацией принять решение об упразднении съезда как института власти и назначить выборы в новый двухпалатный парламент уже осенью этого года. Конституционный суд упрекнул депутатский корпус в том, что многие статьи Конституции России противоречивы, требуют немедленных поправок.

Не сблизило стороны ни на шаг и новое выступление на съезде Б.Ельцина, который призвал "принять одно единственное решение — вынести на всенародное голосование 25 апреля не только вопрос о доверии президенту, но и о доверии съезду".

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### На "нейтралке" далеко не уедешь?

**Национальный центр стратегических инициатив "Восток—Запад" распространил аналитические доклады, рассматривающие варианты внешнеполитической и внешнеэкономической стратегии Беларуси.**

— Выработка концепции внешней политики до сих пор остается уделом узкого круга политиков, — заметил президент НЦСИ Анатолий Майсеня. — В печати эти проблемы затрагиваются весьма поверхностно. Наши доклады — попытка поднять обсуждение на должный научный уровень.

Внимание журналистов привлек тезис, который неожиданно перекликается с нервом нынешних политических дискуссий, — идея нейтралитета противоречит коренным интересам Беларуси, считают ученые.

Нейтралитет не совмещается с экономической интеграцией, утверждают известные в политологии авторитеты. Для Беларуси с ее громадным военно-промышленным комплексом это означает потерю заказов и как следствие ощутимую утрату научно-технического потенциала, рост безработицы.

**Игорь ФИЛИПЕНКО.**

### Медицинский прогноз погоды на 27 марта

**Погода в Минске и области будет формироваться под влиянием поля повышенного атмосферного давления. Ожидается незначительный рост содержания кислорода в воздухе.**

Сегодня может ухудшиться самочувствие больных, склонных к повышению артериального давления. Им рекомендуется соблюдение диеты (отказ от острых и соленых блюд), прием лекарств, назначенных врачом, включая успокаивающие средства (типа настойки валерианы, пустырника).

**Антонина КАРОЗА,**
**научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Прыйшоў час сем разоў адмераць...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Армія і палітыка — вось праблема, якая на вячэрнім пасяджэнні папярэдняга дня работы сесіі добра ўзрушыла парламентарыяў. Міністр абароны рэспублікі П.Казлоўскі, выступаючы па пытанню аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты, прапанаваў паставіць прававую заслону ўсякай палітычнай дзейнасці ў арміі. Выказаў ён і папрокі ў адрас "Народнай газеты", якая, на яго думку, прыхільна ставіцца да зваротаў БЗВ, а вось пра публікацыі іншага палітычнага накірунку неяк забываецца.

Дэбаты па ўзнятаму пытанню, як ужо адзначалася, былі гарачымі, а вынік такі: існаванне і дзейнасць палітычных груповак у войску прызнаны недапушчальнымі.

А ранак учарашняга дня пачаўся з усхваляванага і па-чалавечы шчырага выступлення народнага дэпутата У.Кавалёнка — нашага знакамітага земляка-касманаўта. Ён папрасіў, улічваючы тое, што двайнога грамадзянства ў рэспубліцы па закону няма, даць згоду на датэрміновае спыненне яго дэпутацкіх паўнамоцтваў — жыве і працуе на вельмі адказнай пасадзе У.Кавалёнак, як вядома, у Расіі. Але галасаванне паказала, што развітвацца з У.Кавалёнкам нашы парламентарыі не жадаюць — ён будзе і далей выконваць свае дэпутацкія абавязкі, нягледзячы на пэўныя цяжкасці.

Затым настаў час пытання, якога ўсе так доўга чакалі, — аб эканамічнай сітуацыі, стане і развіцці эканамічных адносін з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Неабходнасць разгляду такіх праблем — відавочная. Калі ўжо ўтварылася Садружнасць, то і жыць у ёй патрэбна па-сяброўску. На жаль, належнага паразумення пакуль што няма па цэламу шэрагу надзённых патрэб.

Эканоміка нашай рэспублікі па гэтай прычыне пачала прыкметна "кульгаць". Як быць далей, які кірунак у міждзяржаўных адносінах выбраць, на якія прыярытэты зрабіць стаўку?.. — свой погляд па гэтых і іншых надзённых пытаннях выказалі, а таксама далі інфармацыю для роздуму народным дэпутатам Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч, Старшыня Савета Міністраў В.Кебіч, старшыня Нацыянальнага банка рэспублікі С.Багданкевіч.

Над гэтым парламентарыі будуць некалькі дзён думаць і разважаць, а ў аўторак, калі сесія прадоўжыць сваю работу, "сем разоў адмераўшы", выкажуць свае меркаванні і прапановы. Будзем спадзявацца, што яны будуць кампетэнтнымі і канструктыўнымі.

*З першых вуснаў*

## "Убраць бюракратычны лес"

**У бліжэйшыя дні будзе прынята пастанова беларускага ўрада аб лібералізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці, якую чакаюць у першую чаргу вытворцы.**

Як заявіў карэспандэнту Белінфарма першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях Міхаіл Марыніч, новы падыход заключаецца ў адзінай сістэме ліцэнзавання і кваціравання, што дасць магчымасць "убраць бюракратычны лес, а таксама зменшыць спіс прадукцыі, якая падлягае ліцэнзаванню". Згодна з пастановай, займацца гэтым будзе толькі Дзяржзнешэканамсувязі Рэспублікі Беларусь.

Гаворачы аб ідэі эканамічнага саюза, Міхаіл Марыніч адзначыў, што інфармацыя аб паступленні банкнот нацыянальнай валюты "не павінна здзіўляць", бо гэта акцыя не супярэчыць стварэнню такога саюза. "Гатоўнасць у любы час увесці нацыянальную валюту засцеражэ сёння Беларусь ад магчымых нечаканасцей, — сказаў ён. — Але ўсё ж я лічу, што рэспубліцы мэтазгодна заставацца ў рублёвай зоне".

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**

*Повязь часоў*




## "Мы гэта свята будзем адзначаць кожны год..."

**Такімі словамі завяршыў Ніл Гілевіч урачысты сход, які прайшоў у канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі і быў прысвечаны 75-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Услухаемся, якія словы знайшлі з гэтай нагоды людзі, для якіх Бацькаўшчына ўвабрала ўсе скарбы і каштоўнасці свету...**

**Ніл Гілевіч**: "...Яе вялікасць гісторыя яшчэ раз дала нам шанц, канешне ж, у апошні раз, уваскрэснуць і навекі заняць свой пачэсны пасад між народамі.

... БНР, яе праграма і яе ўрад зарадзіліся ў нетрах народнага жыцця, у нетрах Усебеларускага кангрэса, на які сабралася звыш 1800 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі, сыноў, пераважна ў салдацкіх шынялях і сялянскіх світках, шчырых у сваёй любові да Беларусі, самаахвярных, з адзіным наказам ажыццявіць нарэшце адвечную мару беларускага народа стварыць сваю дзяржаву, каб людзьмі звацца. Гэта быў незвычайны парыў разбуджанага народнага духу..."

**Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч**: "Першы раз я ўрачыста і афіцыйна святкаваў наш нацыянальны беларускі Вялікдзень паўвека таму назад у слаўным і дарагім мне Навагрудку. Нашыя папярэднікі ў змаганні за свабодны і дэмакратычны лад на Беларусі далі нам усім прыклад палітычнай празорлівасці і самаахвярнага служэння справе нацыянальнага адраджэння Беларусі... Заклікаю вас усіх з'яднацца вакол ідэалаў БНР у працы на карысць вольнай і дэмакратычнай дзяржавы, каб раслі і буйнелі дабрародныя парасткі зярнят свабоды, кінутых у беларускую гістарычную глебу 75 гадоў назад незабыўнымі творцамі акта 25 сакавіка".

**Багдан Андрусішын (Данчык)**: "... Бачу, як святлее твой твар, мой родны краю, і поўны сілы і веры я крычу на ўсю моц тваім нівам, лясам і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сынам: "З вялікім святам віншую! З вялікім святам, вялікі беларускі народ! Хрыстос уваскрос!"

❑

На ўрачыстым сходзе прысутнічаў і выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

**Сяргей ГРЫЦ.**
**Фота аўтара**

## Барацьбітам за незалежнасць прысвячаецца

**Даўняя ідэя дэмакратычных сіл горада Маладзечна — увекавечыць памяць тых, хто аддаў сваё жыццё за незалежнасць роднай Беларусі, — знайшла ўвасабленне ў дзень 75-годдзя стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

На цэнтральнай плошчы горада з'явіўся мемарыяльны знак "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі". У гонар гэтага адбыўся шматлюдны мітынг. Мяркуецца, што з гэтага часу ўсе агульнагарадскія мерапрыемствы будуць праходзіць побач з гэтым помнікам, які ўвасабляе працяглую барацьбу беларускага народа за сваю незалежнасць.

**Белінфарм.**
г. Маладзечна.

## Памятаюць дату і ў Літве

**Выстаўка беларускіх выданняў адкрылася ў Літоўскай нацыянальнай бібліятэцы імя Марцінаса Мажвідаса. Экспазіцыя прымеркавана да 75-й гадавіны абвяшчэння БНР. Гэта дата адзначаецца і ў Літве, дзе, згодна з данымі апошняга перапісу, пражывае каля 65 тысяч беларусаў.**

Цэнтрам святочных мерапрыемстваў стаў Вільнюскі палац работнікаў мастацтваў, дзе адбыўся ўрачысты вечар. Прыняць удзел у ім прыехалі члены беларускага парламента, прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў і Міністэрства культуры Беларусі. У фае палаца разгарнулася выстаўка беларускіх сувеніраў, народных рамёстваў, тут жа дэманстраваліся вырабы мастакоў-беларусаў, якія жывуць у Літве.

27 сакавіка на могілках Расу ў Вільнюсе будзе адкрыты помнік братам Івану і Антону Луцкевічам. Аўтар помніка дзеячам беларускага нацыянальнага адраджэння — мінскі скульптар Алесь Міронччык. На адкрыццё помніка прыбываюць дэлегацыя аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", а таксама суайчыннікі з Германіі.

**Эльта—Белінфарм.**
Вільнюс.

*Актуальная тема*

# Содружество десяти или союз трех?

**Как известно, помимо "планового" пакета законов по правовым проблемам, внеочередная сессия белорусского парламента намерена рассмотреть и вопрос об "экономической ситуации, состоянии и развитиии отношений со странами СНГ". Совершенно очевидно, что его включение в повестку дня не в последнюю очередь связано с недавним предложением премьера В.Кебича о создании экономического союза трех государств — Беларуси, России и Казахстана. Не вызывает сомнений, что заключение такого тройственного союза, если оно состоится, повлечет за собой серьезные перемены во взаимоотношениях стран — членов Содружества и, в конечном счете, может существенно повлиять на его будущее.**

**Поделиться своими мыслями по этому поводу мы попросили Координатора Рабочей группы СНГ, народного депутата Республики Беларусь Ивана КОРОТЧЕНЮ.**

**— Иван Михайлович, вы, вне всякого сомнения, лучше многих депутатов осведомлены о делах в Содружестве, яснее видите его плюсы и минусы, его сегодняшний день и перспективы. Как бы вы расценили почти совпавшие по времени инициативы президента России Б.Ельцина, изложенные в обращении к главам государств СНГ, и предложение Председателя Совета Министров Беларуси В.Кебича об экономическом союзе?**

— Их объединяет глубокая озабоченность состоянием дел в суверенных республиках, продолжающимся спадом производства и снижением уровня жизни людей во всех без исключения странах Содружества, низкой эффективностью принятых в рамках СНГ соглашений, в особенности в экономической сфере. Мне близка и понятна изложенная в обращении Б.Ельцина идея объединения усилий по выходу из кризиса на основе более тесного и многостороннего экономического сотрудничества, а также активного поиска его новых форм. Таких, скажем, как создание транснациональных ассоциаций в различных отраслях народного хозяйства, скорейшее отлаживание новых горизонтальных связей, образование таможенных союзов и зон свободной торговли, других шагов, ведущих к формированию единого экономического пространства, а в перспективе — и к общему рынку. Замечу попутно, что эти экономические предложения Б.Ельцин увязывает с необходимостью организационных преобразований в структуре Содружества, создания органов "по добровольной координации действий", а также с ускорением ратификации и ввода в действие устава СНГ, принятие которого он считает важным шагом к "превращению Содружества в работающий механизм эффективного и взаимовыгодного сотрудничества".

Президент Казахстана Н.Назарбаев, одним из первых поддержавший предложение главы российского государства, тоже видит пути выхода из кризиса на почве укрепления Содружества, углубления в нем демократических реформ и преобразований.

Наш разговор происходит до выступления премьера в парламенте с обоснованием своей идеи. Но, судя по уже обнародованным им аргументам, создание тесного союза трех государств, каким оно видится В.Кебичу, просто перечеркнет все ранее принятые в рамках Содружества экономические соглашения и объективно вряд ли ускорит формирование единого экономического пространства, в котором сегодня заинтересованы все без исключения бывшие советские республики.

**— Вы, наверное, согласитесь, что ситуация в экономике сегодня критическая и в этом смысле инициатива В.Ф. Кебича все же представляется весьма своевременной?**

— К сожалению, что касается экономики, тут вы совершенно правы. На начало этого года в целом по СНГ производство валового внутреннего продукта упало по отношению к 1989 году на 27 процентов. За январь—февраль по сравнению с аналогичным периодом прошлого года спад в промышленности достиг 19 процентов. По общим оценкам за год снижение производства в промышленности ожидается к уровню 1989 года примерно на треть, то есть мы вернемся по этому показателю в 1978 год.

Аналогичная ситуация имеет место в промышленности, капитальном строительстве, во внешнеэкономической сфере. Основная причина — разрыв экономических связей.

В то же время на конец прошлого года денежная масса превысила 11 триллионов рублей в целом по Содружеству. Сегодня на одну единицу товарной массы в ценах 1989 года приходится уже в 17,5 раза больше денежных единиц, а это главный показатель инфляции. За 25 лет с 1960 года вся эмиссия составила 60 миллиардов рублей, а за последние 5 лет она приблизилась к 2,5 триллиона рублей.

Происходит постепенное обнищание народа, примерно 56 процентов населения имеет доходы ниже прожиточного минимума. Если раньше 10 процентов населения имело пятую часть всех денежных доходов, то сейчас на ее долю приходится уже треть всех доходов. Не злоупотребляя цифрами, скажу, что и в Республике Беларусь имеет место ощутимый спад во всех сферах и отраслях.

Что же касается актуальности инициативы, то в условиях кризиса всякая новация, направленная на укрепление хозяйственных связей, будет своевременной. Другое дело, что вместе с идеей должен предлагаться и конкретный механизм ее выполнения. При этом и то, и другое должно быть научно обосновано, должно опираться на законодательную базу и содержать прогнозы результатов осуществления идеи на практике.

Более того, хотя автор идеи создания экономического союза и заявляет, что он (союз) явится новым цементирующим звеном в укреплении Содружества Независимых Государств, вижу в предлагаемой модели серьезные противоречия, которые могут привести к нежелательным последствиям.

Я имею в виду прежде всего круг предполагаемых участников экономического союза. Здесь мне представляется более взвешенной и гибкой инициатива Б.Ельцина и Н.Назарбаева о создании экономического союза на базе республик бывшего СССР и стран — членов СЭВ.

**-- Коль скоро появляются одновременно идеи создания новых союзов, может быть, это следствие того, что СНГ исчерпало себя, или же в его первоначальных документах были заложены неверные подходы?**

— На мой взгляд, Соглашение о создании СНГ, подписанное в Вискулях в декабре 1991 года, имеет двойную направленность. С одной стороны, оно однозначно нацелено на упразднение Союза ССР, демонтаж старых структур, перестройку хозяйственных и иных связей. Естественно, это не может не повлечь за собой снижения уровня жизни народа в течение некоторого переходного периода. Так что если взглянуть на вискулевское Соглашение через призму реалий сегодняшнего дня, особенно в экономической сфере, то можно смело утверждать, что оно выполняется достаточно последовательно.

Что же касается второй стороны Соглашения, предусматривающей организацию новых отношений между суверенными государствами, направленных в конечном счете на созидание и сохранение единого экономического пространства, единых военно-стратегических сил и.т.д., то здесь о положительных результатах говорить сложно.

Почему? Первопричиной, из которой вытекает все остальное, я бы назвал естественную стадию осмысления новой ситуации каждым из государств, стадию "болезни суверенитетом". Именно отсюда — центробежные устремления, отсюда — желание попробовать выйти из кризиса в одиночку, отсюда — отрицание каких бы то ни было намеков на исполнительные, контрольные или координирующие органы, отсюда же — страстное желание получить свою долю собственности бывшего Союза.

(Окончание на 2-й стр.)

*Актуальная тема*

# Содружество десяти или союз трех?

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

Судите сами: в течение прошлого года в рамках СНГ принято более 300 документов. Наибольший удельный вес среди них — около 25 процентов — занимают вопросы экономики и правопреемства. Однако отсутствие четкого механизма их реализации, преобладание политических амбиций над здравым экономическим расчетом привели к тому, что даже в качестве примера я затрудняюсь назвать работающее соглашение.

Поэтому, когда спрашивают, как остановить процесс спада производства, я отвечаю: надо вернуться к вискулевскому Соглашению и алма-атинской Декларации. Вернуться, чтобы наполнить реальным содержанием заложенные в этих документах принципы.

Сегодня всем ясно, что альтернативы СНГ пока нет. Поэтому в интересах экономического и социального возрождения, в целях стабильности и безопасности нужно наладить многостороннее экономическое сотрудничество, решить, наконец, вопросы наднациональной валюты, свободной торговли, таможенного союза в рамках уже принятых соглашений.

Надо дать возможность действовать вновь созданным структурам — межгосударственным советам, комитетам, другим органам, которые отражают новые формы взаимоотношений между членами СНГ. К сожалению, пока пытаются работать только отраслевые координирующие структуры, а о деятельности Межгосударственного банка, Экономического суда приходится говорить лишь в будущем времени.

**—И в печати, и с высоких трибун не раз звучали заявления, что сегодня не работают не только многосторонние, но и двусторонние соглашения, заключенные Беларусью с другими республиками бывшего Союза. В чем, по-вашему, главная причина?**

— Их много — и объективных, и субъективных. К последним отношу ситуацию, когда вопросами реализации соглашений занимаются все, а это значит, что конкретно не занимается никто. Я имею в виду отсутствие мощной профессиональной структуры, которая системно и глубоко занималась бы этими проблемами. Россия, как известно, учредила специальный комитет со штатом почти в тысячу человек, на Украине в подобном органе занято более 200 специалистов, то же и в Казахстане. У нас глыбу этих важнейших проблем взвалили на плечи государственного секретаря и малой горсточки его сотрудников. Мне представляется, что это как раз та сфера деятельности суверенного государства, на которой крайне невыгодно экономить.

**— И на проходившей накануне встрече белорусского премьера с "директорским корпусом", и при обсуждении повестки дня сессии, из уст депутатов-хозяйственников прозвучало немало страстных речей в поддержку инициативы В.Кебича. Многие открыто говорили о замене "аморфного СНГ энергичным и деловым экономическим союзом..."**

— В этом нет ничего удивительного. Не видя ощутимых результатов многочисленных встреч глав государств и правительств, разуверившись в возможностях эффективного воздействия отраслевых структур Содружества на положение дел, люди, причастные к конкретной экономике, закономерно связывают свои надежды с союзом, который, как им представляется, поможет решить большинство острейших проблем. И, в первую очередь, с поставками сырья и материалов, с реализацией готовой, но неконкурентоспособной продукции. Мне кажется, что в будущем союзе некоторые увидели возможность возвращения прежних госплановских, завязанных на центр отношений, когда все за всех решалось и тем самым освобождало предприятия от множества непростых забот. Но как увязать жесткую регламентацию действий деловых партнеров с переходом к свободной, рыночной экономике, о которой, как о конечной цели преобразований, заявили все республики?

Вообще вопросов, связанных с экономическим союзом, много, а ответы на большинство из них пока не просматриваются. Например, на какие координирующие и контролирующие органы союз будет опираться, каким видится их статус по отношению к национальным правительствам и отраслевым структурам?

Как будут строиться финансовые связи имеющей единое денежное пространство "тройки" с другими странами?

Как мне представляется, необходимо учитывать еще один очень важный элемент. Надо не забывать о недавнем решении государств Средней Азии и Казахстана, которые в Ташкенте документально засвидетельствовали свое стремление предпринять согласованные шаги к "образованию в Центральной Азии общего рынка с единой налоговой, таможенной, ценовой, инвестиционной и экспортной политикой".

В силу служебных обязанностей мне часто приходится общаться с руководителями государств СНГ, и я знаю, что большинство из них, как и Б.Ельцин, выступают за создание единого экономического пространства на платформе беловежских и алма-атинских документов, а также устава СНГ.

Они не исключают также возможность восстановления взаимовыгодных связей и со странами, ранее входившими в СЭВ, но на новых принципах. И в этом, как мне кажется, есть закономерная логика развития деловых отношений в Содружестве с учетом конкретных реалий, которые сложились после распада социалистической системы хозяйствования, а затем и Союза ССР.

**— Одновременно с идеей создания экономического союза выдвигается предложение о пересмотре отношения республики к Договору о коллективной безопасности. Насколько нам известно, сразу после его подписания шестью государствами вы публично заявили, что Беларусь допускает серьезную ошибку, отказываясь присоединиться к этому документу.**

— Я видел реакцию на аргументы С.Шушкевича со стороны некоторых глав государств. На их лицах было написано недоумение: как это республика, чья экономика столь прочно завязана на военно-промышленный комплекс, пытается сразу, одномоментно порвать с ним, не задумываясь о тяжелейших последствиях обвальной конверсии?

Я горячий сторонник полного нейтралитета Беларуси, но считаю, что в интересах республики — прийти к нему постепенно, через переходный период, который позволит провести структурную перестройку экономики и решить многие острые ныне военно-политические проблемы. Думаю, что возвращение к вопросу коллективной безопасности свидетельствует о понимании сегодняшних реалий и многими депутатами, и руководством республики.

**— Вы, видимо, не станете возражать, что последние события вновь заострили утихшие было дискуссии о будущем Содружества?**

— Я не теряю уверенности, что все, даже самые острые проблемы можно решить в рамках Содружества. При условии, что оно будет превращено в действенное межгосударственное объединение равноправных, суверенных партнеров, основанное не только на общности интересов, но и на верности данному слову, на неукоснительном соблюдении принятых на себя обязательств.

Я целиком и полностью разделяю точку зрения Б.Н.Ельцина, высказанную в обращении к главам государств, что пришла пора создания в Содружестве координирующих, а может и наделенных некоторыми властными функциями органов, которые осуществляли бы контроль за исполнением ранее принятых решений. Скорейшая ратификация устава способствовала бы укреплению СНГ, появлению реальных инструментов влияния на реализацию достигнутых договоренностей.

Думаю, что Содружество Независимых Государств в своем развитии закономерно подошло к очередному этапу своего существования, предполагающему новую форму координации действий. Сегодня в рамках СНГ и его устава идет работа по созданию Координационно-консультативного комитета Содружества.

Состоявшееся 12 марта текущего года заседание Совета глав правительств СНГ пришло к единому мнению, что в состав Комитета должны войти действующие заместители глав правительств, наделенные реальной властью, имеющие возможность влиять и на подготовку многосторонних документов и на воплощение их в жизнь.

Создание такого органа явится качественно новым уровнем взаимодействия правительств, по крайней мере в вопросах экономического сотрудничества. В то же время Комитет, не являясь надгосударственной структурой, возьмет на себя контроль за исполнением взаимных обязательств, сможет самостоятельно принимать необходимые решения.

Я по характеру — умеренный оптимист, поэтому твердо уверен, что потенциал СНГ далеко не исчерпан, что реализация принятых в рамках Содружества решений и предложенных идей непременно откроет перед ним новые горизонты.

**Беседу вели А.ВЛАДИМИРОВ, Е.ПЕТРОВИЧ.**

# Нічога нам не дапаможа, калі не рушыць наперад рэформы

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня ЦР Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь**

**18 сакавіка 1993 г. у "добрых старых традыцыях" былых партыйна-гаспадарчых актываў у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета кіраўнік беларускага ўрада арганізаваў нараду-семінар з кіраўніцтвам мясцовых Саветаў. Усё ішло, як і ў былыя камуністычна-савецкія часы. Ніводнага беларускага слова з высокай трыбуны, доўгі, без усялякага рэгламенту, даклад сп.Кебіча і актыўная падтрымка ягоных слоў прадстаўнікамі з месцаў. Толькі бел-чырвона-белы сцяг і дзяржаўны герб на ўрадавай трыбуне нагадвалі гледачам ТБ, што на календары не 1990, а 1993 год. Можа, таму так актыўна накінуліся зараз з маўклівай згоды ўрада на дзяржаўную беларускую сімволіку старыя і новыя камуністы?**

Аднак вернемся да прамовы Вячаслава Францавіча. Гэта вам, шаноўныя спадары, не Мірскі замак! Ніякіх успамінаў пра беларускую гісторыю і культуру, пра адраджэнне беларускай мовы і нацыянальнай свядомасці, ні слова пра 75-я ўгодкі БНР. Затое новы эканамічны і ваенны саюз у выглядзе той канфедэрацыі, пра якую так марыла і за якую так зацята змагалася на апошняй сесіі ВС беспартыйная фракцыя "Беларусь". Цікава толькі, колькі яе сяброў адгукнулася на заклікі таварышаў Малафеева і Камая і аднавіла сваё сяброўства ў радах КПБ? А можа, яны чакаюць спецыяльнага загаду і асабістага прыкладу шаноўнага Вячаслава Францавіча? Бо не могуць сучасныя беларускія камуністы існаваць без федэрацыі ці, хаця б, напачатку, канфедэрацыі з Расіяй і Казахстанам. Вядома, гэта не былы СССР, аднак таксама немалая краіна, "где так вольно дышит человек", асабліва калі ён пры ўладзе. Не задавальняюць спадара Кебіча і яго аднадумцаў прамыя двухбаковыя сувязі з гэтымі краінамі, бо ў мінулым годзе падпісаў сп.Кебіч спачатку пагадненне з Гайдарам аб таннай нафце, а потым з урадам Казахстана дагавор аб пастаўках на Беларусь таннага хлеба. Колькі радасці было тады ў саўмінаўскіх газетах, колькі рэпартажаў і інтэрв'ю на радыё і на тэлебачанні! Аднак і Расія, і Казахстан абвялі даверлівых беларусаў вакол пальца і паказалі ім фігуру з трох пальцаў. Іншыя б пакрыўдзіліся, пайшлі б у іншы бок, пачалі б ладзіць сувязі з больш блізкімі і надзейнымі партнёрамі, магчыма, і падтрымалі б ідэю аб Балтыйска-Чарнаморскім эканамічным саюзе, што даўно ўжо прапануе апазіцыя. Але нашы ўрадаўцы — хлопцы моцныя і старыя наменклатурныя сувязі цэняць мацней за інтарэсы свайго народа. Не атрымаліся двухбаковыя сувязі, давай рабіць адразу трохбаковыя і тады зажывём без усялякіх праблем. Спадара Кебіча не турбуе, што калі гэта адбудзецца, то прыйдзецца тэрмінова ладзіць сапраўдныя межы не толькі з Польшчай, але і з Літвой, Латвіяй і Украінай (толькі мяжа з Украінай большая за мяжу з Расіяй і складае 1000 км!) і Беларусь з трох бакоў застанецца ў ізаляцыі. А калі пры гэтым урад захавае фіксаваныя цэны на харчаванне, у той час як суседзі іх даўно адпусцілі, то развал нашай сельскай гаспадаркі да восені 1993 года забяспечаны. Затое будзе без "усялякай канверсіі" працаваць наша ваенная прамысловасць і абслугоўваць ваенныя патрэбы расійскай арміі. Іншая справа, што расійская ваенная прамысловасць у сувязі са значным скарачэннем ваенных заказаў сама знаходзіцца ў глыбокай стагнацыі і займаецца канверсіяй (у адрозненне ад Беларусі) вельмі сур'ёзна.

Цікава, ад каго збіраецца абараняцца спадар Кебіч, кажучы аб тым, што "толькі калектыўная бяспека можа надзейна гарантаваць нашу незалежнасць"? На поўначы, захадзе і поўдні Беларусі ўсё спакойна, з суседзямі добрыя адносіны, тэрытарыяльных прэтэнзій з іх боку да нас няма. Тым больш што ў выніку раздзелу былой савецкай арміі Беларусь з'яўляецца зараз самай "узброенай" дзяржавай у Еўропе па шчыльнасці ўзбраенняў на адзінку тэрыторыі і колькасці вайскоўцаў на душу насельніцтва. Нестабільная сітуацыя толькі на Усходзе, вайна на Каўказе, Карабах і канфлікты ў Сярэдняй Азіі. І менавіта туды цягне нас урад Кебіча. Яшчэ няма ваеннага саюза, а ўжо гінуць нашы землякі ў полымі каўказскай вайны. Нядаўна загінуў, як паведаміла расійская тэлепраграма "Вести", наш зямляк, ваенны лётчык Шыпко, які служыў у расійскай арміі, а быў забіты ў небе Абхазіі грузінскімі салдатамі. Уявіце сабе, спадар Кебіч, што гэта ваш сын альбо сваяк. Хіба мала беларускаму народу Афганістана?..

Калі ў цывілізаванай краіне прэм'ер-міністр не згодны з палітыкай парламента, то ён ідзе ў адстаўку. Чаму гэта не зрабіць сп.Кебічу? Тым больш што мы не раз чулі ад яго самыя розныя абяцанні. У якіх крамах, шаноўны Вячаслаў Францавіч, мы можам набыць танную і якасную гарэлку ці беларускія легкавыя аўтамабілі, пра выраб якіх ішла ў свой час гаворка з парламенцкай трыбуны? А як з абяцаннем з 1 верасня 1992 года перайсці на дзяржаўную мову? Можа, варта гэта зрабіць будучы на пенсіі, калі галава не занятая ваеннымі ці эканамічнымі праблемамі? А можа, у складзе будучай канфедэрацыі будзе панаваць "язык межнационального общения" і матчыну мову можна спакойна выкінуць на сметнік?

Не, не дапамогуць сп.Кебічу ніякія саюзы, пакуль не скрануцца з месца карэнныя рэформы, не будзе сапраўднай прыватнай уласнасці на зямлю, пакуль усе міністры яго ўрада не загавораць на мове свайго народа і не будуць упарта называць нашу краіну рэспублікай былога СССР.

*Лёсы людскія*



# "Я мусіў усё жыццё гаварыць няпраўду!.."

Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ,
фота аўтара

**Горкія словы... А як пражыць жыццё сумленнаму чалавеку, вымушанаму ўвесь час падманваць сваіх блізкіх, суседзяў? З якім самаадчуваннем такі чалавек кожны дзень прачынаецца, ідзе на працу, адпачывае?**

— Самаадчуванне страшэннае, — расказвае Васіль Сафронавіч Дробаў, слесар мінскай ЖЭС-107. — Мой бацька быў старшынёй калгаса, яго ўзялі ў 1938 годзе, а я апынуўся ў дзіцячым доме. Ужо ў восем год мяне вучылі пад струнку ложак засцілаць, дзяжурыць, на лінейкі строіцца. Калі я зразумеў, што стаў сынам ворага народа, пачаў страшэнна маніць. А што заставалася? Калі б дзеці з дзетдома даведаліся праўду, яны б мяне задзяўблі! Таму, памятаю, і бабуля казала: "Унучак, не гавары нікому праўды! Не расказвай пра свайго бацьку!"

А што я мог расказаць? Як на "эмцы" прыехалі людзі ў міліцэйскай форме? Як бацька ў праўленні падпісваў апошнія калгасныя дакументы, яны сядзелі побач, а я стаяў і плакаў? Як бацька гаварыў свае апошнія словы: "Сынок, не плач. Я паеду ў райцэнтр, прывязу табе цукерак..."?

Бацька Васіля Сафронавіча не вярнуўся ўжо ніколі. Толькі праз доўгія дзесяцігоддзі сын атрымаў звестку з КДБ рэспублікі:

*"Паважаны Васіль Сафронавіч!*

*Паведамляем, што Ваш бацька — Дробаў Сафрон Мікалаевіч быў неабгрунтавана арыштаваны НКУС БССР 11 чэрвеня 1938 года "за ўдзел у шпіёнска-паўстанскай арганізацыі". Па пастанове Асобай тройкі НКУС БССР заключаны ў выпраўленча- працоўны лагер срокам на дзесяць год. У грамадзянскіх правах абмежаваны не быў.*

*28 студзеня 1943 года памёр у месцы зняволення ў Удмурцкай АССР. Дадзеных аб прычыне смерці і месцы пахавання ў справе не маецца.*

*Рашэннем Ваеннага трыбунала Беларускай ваеннай акругі ад 28 красавіка 1963 года пастанова Асобай тройкі НКУС БССР ад 14 лістапада 1938 года ў адносінах Дробава Сафрона Мікалаевіча адменена і ён рэабілітаваны..."*

Бацька рэабілітаваны... Ён быў ні ў чым не вінаваты... А сын усё сваё жыццё пражыў са страшэнным цяжарам на сэрцы. А іх, такіх жа прыніжаных і зняважаных, як Васіль Сафронавіч Дробаў, былі тысячы, мільёны. Па-рознаму склаліся іх лёсы, але тыя страшэнныя раны не загаіліся ні ў кога.

— Калі б жывы быў мой бацька, я, магчыма, стаў бы аграномам, а можа, застаўся б простым калгаснікам. Але я быў бы пры сваім бацьку! Я сам вырашыў бы свой лёс! А так дзяржава фактычна пазбавіла мяне выбару!

Але Васіль Сафронавіч выкараскаўся. Дзе толькі не пабываў за сваё жыццё. Лёс закідаў яго не толькі ў Калінінград, дзе ён пражыў амаль трыццаць гадоў, але і ў Сінгапур, Бамбей, Каломба, Канаду, іншыя дзяржавы. Працаваў ён механікам на караблі, таму і давялося павандраваць па свеце.

— Колькі разоў у мяне цікавіліся: чаму я дзе-небудзь не застаўся? Але мяне ўвесь час цягнула ў сваё роднае балотца, дзе нарадзіўся і стаў на ногі. Нягледзячы ні на што, для мяне слова "Радзіма" было святым. І на старасці год я вярнуўся дамоў, бо гэта мая зямля, адсюль пайшоў у свой апошні шлях мой бацька...

Васіль Сафронавіч жыве з жонкай у пакойчыку ў камунальнай кватэры. Адзін туалет на пяць сем'яў, кухня таксама на ўсіх адна. Калі пачынаў сем гадоў назад працаваць сантэхнікам, яму абяцалі: дадзім кватэру. Зараз штосьці маўчаць.

Няўжо ён за сваё жыццё не зарабіў на свой асобны куток? Няўжо і бацькавай крыві для гэтага мала?

— Я не патрабую многага, — з горыччу гаворыць на развітанне Васіль Сафронавіч. — Далі б якую развалюху, я сам майстар, усё зрабіў бы, каб хоць апошнія гады пражыць у сваёй хоць невялікай, але асобнай кватэры...

❑ *Васіль Сафронавіч ДРОБАЎ. Здымак зроблены не на агульнай кухні...*

*Правінцыяльная хроніка*

## Глушы матор...

Зямля вось-вось пакліча хлебароба, а тэхніка па ўнясенню ўгнаенняў у Кобрынскай райсельгасхіміі ўсё яшчэ на прыколе. З-за дарагоўлі абслугоўвання гаспадаркі адмаўляюцца ад паслуг свайго партнёра і стараюцца выканаць работы ўласнымі сіламі. Каб утрымацца на плаву, раённыя хімікі збіраюцца заняцца будаўніцтвам, выпускам сценавых блокаў. Так рушыцца яшчэ адно звяно ў адладжанай гадамі агратэхніцы. Што ж, ламаць — не будаваць...

## "Чапаеўцы" думаюць...

Цяпер няма праблем са збытам жывёлы з асабістых падвор'яў у калгасе імя Чапаева і суседніх вёсках Астравецкага раёна. Прыём і перапрацоўку яе наладзіла малое прадпрыемства "Варняны", створанае гаспадаркай сумесна з адной з маскоўскіх фірм, якая паставіла спецыяльнае абсталяванне. Ніхто не прагадаў. Штодзённы выпуск паўтары тоны рознай вэндажаніны і каўбас прыносіць у калгасную касу штомесяц да мільёна рублёў прыбытку.

А "чапаеўцы" думаюць аб узвядзенні невялікага завода і для перапрацоўкі малака, якое таксама будуць купляць у асноўным у насельніцтва. Ёсць у калгаснікаў планы арганізаваць у будучым міжгаспадарчую вытворчасць па вырабу скур.

**Белінфарм.**

*Люди, будьте бдительны!*

# РАСТЛИТЕЛИ

## Кое-кому снова хочется поднести факел к пороховой бочке

**Михаил НОРДШТЕЙН,**
**главный редактор газеты "Авив"**

Одно из самых трагических чисел, впечатанных в смятенную память человечества, всех добрых людей — 6 000 000. Шесть миллионов евреев стали жертвами нацистского ножа.

На любой войне гибнут солдаты, достается и мирным жителям. Чудовищным репрессиям подверглись все народы на оккупированных гитлеровцами территориях. Русские и белорусы, украинцы и поляки, венгры и чехи, французы и датчане — да что тут перечислять! — любой народ, испытавший ужасы второй мировой войны, вправе предъявить свой счет фашизму. Но в этой невиданной трагедии евреи занимают особое место. Впервые в новейшей истории убивали целый народ. Убивали хладнокровно и методично, с дьявольской расчетливостью, с инженерной выдумкой. Расстреливали, вешали, душили, топили, закапывали и сжигали заживо, выдумывали самые изощренные способы казни, которые не могли присниться и в страшном сне.

Только в Беларуси было убито свыше 300 000 евреев. И когда говорят, что здесь погиб каждый четвертый, то надо помнить, что для евреев это был каждый второй.

Сами по себе числа, ставшие статистикой, воспринимаются скорее умом, нежели сердцем. Но прикоснитесь хотя бы к одной трагедии, мысленно представьте себя на месте матери, на глазах которой двуногое существо в форме эсэсовца или полицая ломает позвоночник ее ребенка, представьте себя, догола раздетого, искусанного овчарками, которого вместе с такими же несчастными гонят в душегубку, и эти 6 000 000 обрушатся на вас рвущим душу вопросом: да как же это могло случиться, как допустили, что кучка уголовников растлила миллионы, превратив их в убийц?

Вечный, проклятый вопрос. Преступниками, как известно, не рождаются. Злодейство не вырастает просто так, само по себе. Почву, на которой оно идет в буйный рост, предварительно кто-то обрабатывает, бросая туда ядовитые семена.

Не сразу, не в одночасье был оболванен немецкий народ, давший в свое время миру великих ученых, поэтов, музыкантов, философов. Прежде чем наступила фашистская ночь и запылали костры из книг, прежде чем появились освенцимы и треблинки, прежде чем Гитлер отдал людоедский приказ об "окончательном решении еврейского вопроса", была проведена гигантская идеологическая обработка населения. В Нюрнберге вешали не только палачей, но и тех, кто готовил их в тиши кабинетов, кто вооружал их "передовой расовой теорией..."

❑

Казалось бы, после того, что произошло, все это должно кануть в прошлое, сгинуть, словно кошмарный сон. Но снова мы слышим ту же подлую, антисемитскую риторику из уст не только подвыпившей черни, но и "респектабельных мужей" — кандидатов и докторов наук, писателей, политических деятелей. Не переводятся растлители и подстрекатели — антисемитствующие "интеллектуалы". Уж очень им не по душе межнациональное спокойствие в Беларуси. А нельзя ли взорвать его, натравить белорусов на русских, а тех и других — на евреев? Главное — что? Оживить предрассудки, пустить в ход сенсационные "разоблачения" о "всемирном еврейском заговоре", создать образ постоянного внутреннего врага. А на пожаре всегда вольготно мародерам!

Перелистайте газеты "Славянские ведомости", "Семь дней", "Мы и время", "Политика. Позиция. Прогноз" за последний год. Вряд ли отыщется месяц, в течение которого не вылезала бы в этих изданиях "еврейская тема". Убит известный певец Игорь Тальков, и газета "Семь дней", подменяя следствие и суд, кощунственно объявляет: "Кровавый след ведет в Израиль".

Стихотворец В.Дашкевич в газете "Политика. Позиция. Прогноз" публикует вирши про "внуков Троцкого", которые тянут руки к "русскому жезлу". Автор прозрачно намекает: имеется в виду не столько большевистская сущность этих "внуков", сколько прежде всего национальная, то бишь еврейская.

В начале прошлого года кандидат философских наук И.Шпадарук опубликовал в газете "Семь дней" статью под интригующим заголовком "Был ли русским Великий Октябрь?". "В руководстве ВКП(б) и первого в мире "социалистического государства" и во все другие годы, — утверждает он, — русских людей были единицы."

Первый Совнарком, по Шпадаруку, состоял из 22 человек: Ульянов-Ленин (по матери Бланк), Чичерин-Орнадский (по матери Мейендорф), Джугашвили-Сталин, Прошьян, Троцкий-Бронштейн, Ларин-Лурье, Шлихтер, Кауфман, Ландер, Шмидт, Лилина-Книгиссен..." (И далее в том же духе: сплошные еврейские фамилии. — **М.Н.**)

Шпадарук вещает, что фамилия первого председателя ВЧК была Дзержинский-Руфин, а членом коллегии НКВД в 1918—1920 годах (когда только рабочих и крестьян расстреляли около двух миллионов) был Борис Моисеевич Эльцин — родной дядя Бориса Ельцина.

Здесь что ни абзац, то гнусная ложь и подтасовки. На самом деле в первый Совнарком входили не 22 человека, как утверждает И.Шпадарук, а 15. И, конечно, главной в его "деяниях" была не расовая общность, а политическая. Но Шпадарук лжет с умыслом. Но ведь кроме наркомов по иностранным делам еврея Л.Д.Троцкого (Бронштейна) и по делам национальностей грузина И.В.Сталина (Джугашвили) остальные тринадцать никак не евреи: председатель СНК В.И.Ульянов-Ленин, нарком внутренних дел — А.И.Рыков, земледелия — В.П.Милютин, труда — А.Г.Шляпников, по военным и морским делам — комитет в составе В.А.Антонова-Овсеенко, Н.В.Крыленко и П.Е.Дыбенко, по делам торговли и промышленности — В.П.Ногин, народного просвещения — А.В.Луначарский, финансов — И.И.Скворцов-Степанов, юстиции — Г.И.Опокков (Ломов), по делам продовольствия — И.А.Теодорович, почт и телеграфов — Авилов (Глебов).

Но что делает И.Шпадарук? "Вводит" в первый Совнарком "инородца" П.П.Прошьяна, который вошел туда позже, но зато умалчивает о В.А.Карелине, Б.Д. Камкове, А.Л.Колегаеве, Н.П.Горбунове и других, "нетянущих" на евреев. Никогда не были наркомами ни Ларин (Лурье), ни Лилина-Книгиссен, ни Заславский, как и многие другие, названные И.Шпадаруком. (Кого именно он имел в виду, трудно понять, ибо инициалы "ученый-философ" не указывает.)

Как видим, этот "разоблачитель" применяет нехитрый прием: сознательно убирает одни фамилии, которых явное большинство, и переносит на "другие", не гнушаясь прямой фальсификацией. Очевидно, помня заветы Геббельса, чем больше ложь, тем быстрее ей поверят"... он рассчитывает, что никто проверять не будет.

Так вот, Ф.Э.Дзержинский никогда не был Руфиным. Здесь для подтасовки используется второе, как тогда было принято у поляков, имя его отца Эдмунда-Руфина. "Ученый" Шпадарук просто мошенничает: берет вторую часть имени отца Феликса Эдмундовича и приделывает ее к фамилии. Авось доверчивые читатели примут приставку "Руфин" за еврейскую фамилию и озлобятся на "рыцаря революции".

❑

Не буду останавливаться на других измышлениях И.Шпадарука (жалко газетной площади!). Сколько-нибудь пытливый читатель, открыв Большую Советскую Энциклопедию, убедится в том, что не было у второго наркома по иностранным делам Г.В. Чичерина фамилии Орнадский, что он из дворян, его родной дядя Б.Н.Чичерин — известный русский историк, философ, публицист. Что же касается "родного дяди" у коренного уральца Б.Н.Ельцина — некоего Бориса Моисеевича Эльцина, то, несмотря на все усилия бессовестных историков, вроде И.Шпадарука, к такому "родству" вполне подходит народная поговорка: "В огороде бузина, а в Киеве — дядька".

На таком вот уровне работает сей борец с "еврейским засильем".

В другой публикации — "Гитлер и его окружение" ("Наша доля") он снова садится на любимого конька, утверждая, что сам Гитлер и все его окружение — евреи, полуевреи или четвертьевреи. "Генерал Франко — это чистокровный еврей", — не моргнув глазом, кощунствует И.Шпадарук. "А сейчас сопоставьте, — резюмирует он, — Рузвельт и Черчилль (оба с еврейской кровью) и Гитлер с Франко. Вот конгломерат главных виновников второй мировой войны и гибели свыше 50 млн. человеческих жизней! И невольно доверчивый читатель задумается: "От кого же исходит настоящий фашизм?"

А, впрочем, и задумываться незачем: ясно — от евреев. Стало быть, даешь погромы! Такова логика подстрекателей. Доктор юридических наук И.Кучеров в статье "Авив" (газета "Мы и время") поучает славян, пытается уверить читателей в том, что Талмуд "антигуманен", и тем самым намекает: вся основа еврейской духовности порочна. "Выходящая в Беларуси еврейская газета "Авив", — нагнетает страсти И.Кучеров, — "один из малотиражных рупоров мирового сионизма" — выполняет "установки тех международных политических сил, которые заинтересованы в углублении развала, вражды, анархии в славянских странах, чтобы продолжить их вселенский грабеж". Доктор Геббельс бы рукоплескал такому доктору, хотя потом бы, конечно, тоже повесил за "расовую" неполноценность...

❑

Читаешь все эти откровения, всю эту безграмотную, невежественную и людоедскую стряпню, и память невольно переносит к гитлеровской пропаганде. Абсолютно одинаковы приемы — клевета и подтасовки, те же гнусные наветы и подталкивание к ножам.

То, что сегодня кажется эмбриональным и глупым, завтра может вымахать в агрессивное чудовище. Это один из уроков Истории, за который человечество заплатило страшную цену. Вспомним: сначала было отравленное слово, а точнее — грязные статейки в "Дер Штюрмер", где евреи обвинялись... в разжигании I мировой войны, затем — погромы в Берлине и Мюнхене. Затем пришла очередь газовых камер в Освенциме и ям в Тростенце. Затем к этой "низшей расе" причислили других, в том числе славян. И если бы не победа Разума в великой битве с тьмой, сегодня не было б ни русских, ни украинцев, ни белорусов... Так кто же опять начинает сначала кровавую песню?

# ЗАМЕЖЖА

ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

## Ельцина ждут в Токио...

Японское правительство приняло окончательное решение провести в июле в Токио, куда соберутся на ежегодное совещание лидеры семи ведущих держав Запада, встречу по схеме "семь плюс один" с участием президента России Бориса Ельцина. Газета "Иомиури" отмечает, что приглашение российскому лидеру будет направлено, возможно, до конца марта.

## Программа Клинтона одобрена

Сенат Конгресса США 54 голосами против 45 одобрил ключевые положения экономической программы администрации Клинтона, рассчитанной на пять лет. Она предусматривает крупное повышение налогов, сокращение ряда федеральных расходов, в том числе на военные цели, увеличение ассигнований на некоторые социальные программы. Все эти меры должны привести к сокращению дефицита федерального бюджета США в общей сложности на 510 млрд. долларов в течение пяти лет.

## Новая система коллективной безопасности?

Казахстан предложил обсудить среди заинтересованных стран — членов ООН выдвинутые президентом Нурсултаном Назарбаевым принципы создания системы коллективной безопасности в Азии по типу СБСЕ. Об этом говорится в меморандуме Республики Казахстан, распространенном в штаб-квартире ООН в качестве документа Генеральной Ассамблеи и Совета Безопасности.

## Предупреждение Пхеньяну

За введение международным сообществом жестких экономических санкций против КНДР в ответ на ее решение выйти из договора о нераспространении ядерного оружия высказался в Вашингтоне государственный секретарь США Уоррен Кристофер. Он заявил, что заставить Пхеньян пересмотреть свою позицию может полное эмбарго на поставки нефти, газа, промышленного сырья и продовольствия.

***

За минувший день пять человек в Северной Ирландии погибли в результате двух нападений боевиков из протестантских террористических организаций. Активизация протестантских террористов, отмечалось в вечернем телевыпуске Би-би-си, стала ответом на недавний теракт ИРА в Уорренгтоне на севере Англии, в результате которого погибли двое детей и более 50 мирных жителей города получили ранения.

*В поле зрения*

## Обойдется без обрезания

**Владимир НАЗАРОВ**

Какие добры молодцы теснились на днях в фойе Центрального Дома журналистов! Синяя форма, кирзовые сапоги, пустые пистолетные кобуры, прыщи на щеках...

— Чудо-богатыри Жириновского, — сказали мне шепотом.

Они жиромольцы.

Очередную пресс-конференцию Владимир Вольфович начал с легкой выволочки — досталось на орехи журналистам. А потом Жириновский стал вещать. Естественно, речь его пересказу не поддается. Разве что темы обозначу. Первая из них: прогнозирование всеобщей войны в Средней Азии, которая очень на руку России. Еще напомнил нам Жириновский, что Босфор и Дарданеллы лишь по недоразумению не входят в нашу с вами Константинопольскую область. Что на предстоящих президентских выборах за него проголосуют 40 миллионов избирателей.

"Куранты" уже сообщали, что, по сведениям из крутов, близких к руководству ЛДП, в гости к Жириновскому собирается сын Саддама Хусейна. Зачем? В знак вечной и нерушимой дружбы сын С.Хусейна и Владимир Вольфович решили обменяться конфессиями: хозяин примет ислам, а гость — иудаизм. Живо представил себе телевизионную передачу: лидер ЛДП мужественно переносит обрезание.

Обрезание не состоится, расстроил товарищ, и тот и другой перенесли его еще при вступлении в веру отцов и дедов.

**("Дайджест — Куранты").**

## Куды егіпцяніну дзявацца?

**Георгій ШЭЛЯНКОЎ**

**58 млн. 987 тыс. чалавек склала насельніцтва Егіпта на 1 студзеня бягучага года.**

У гэтую колькасць, паведамляе газета "Аль-Ахрам" са спасылкай на даныя Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення АРЕ, уваходзяць егіпцяне, якія працуюць па найму за мяжой.

Такім чынам, за адзін год насельніцтва краіны вырасла на 1 млн. 229 тыс. чалавек.

Нягледзячы на прымаемыя ўрадам актыўныя меры і шырокую прапаганду "арганізацыі сям'і", праблема перанасялення краіны з усімі яе сацыяльнымі вынікамі застаецца адной з асноўных праблем сучаснага Егіпта.

## КНДР:"С оружием в одной руке, с серпом и молотом — в другой"

Редакцию "Народной газеты" посетил временный поверенный в делах Корейской Народно-Демократической Республики на Украине Ким Гван Нам. Цель приезда — создание информационного канала между двумя нашими странами.

Временный поверенный рассказал о строительстве социализма в Северной Корее и о ситуации, которая сложилась в стране в связи с тем, что МАГАТЭ приняла резолюцию, требующую ядерной инспекции в отношении некоторых военных объектов, которые, по мнению северокорейской стороны, не имеют ничего общего с ядерной деятельностью.

При сложившихся аномальных обстоятельствах, подчеркнул Ким Гван Нам, мы вынуждены не выполнять обязательства по Договору о нераспространении ядерного оружия. Корейская Народно-Демократическая Республика провозглашает, что она в качестве меры для защиты высших интересов страны не сможет не выйти из Договора о нераспространении ядерного оружия. Вместе с тем не могут не беспокоить совместные американско-южнокорейские маневры "Тим спирит-93", по своему содержанию и характеру являющиеся опасной и серьезной военной провокационной акцией, которую ничем нельзя оправдать.

Приказом верховного главнокомандующего корейской народной армии с 9 марта этого года вся страна, весь народ, вся армия приведены в полувоенную готовность. "Всему народу,—отмечается в приказе,—твердо иметь чучхейский, собственный взгляд нашей партии на войну и с оружием в одной руке, с серпом и молотом — в другой добиться крупного подъема в социалистическом хозяйственном строительстве".

**Владимир БОРИСОВ.**

*Вам збіраюцца паказаць...*

## "Кацька і шыз"

Так называецца каляровая мастацкая кінакарціна, створаная кінамайстрамі студыі "Кур'ер" кінаканцэрна "Масфільм" і фірмы "Кінакантакт". Паставіў яе рэжысёр Тыгран Кеасаян па сцэнарыю, напісанаму Яфімам Астроўскім пры ўдзеле Давіда Кеасаяна.

Гэты дынамічны, моцна збіты дэтэктыў з інтрыгай, якая імкліва развіваецца, і любоўнай драмай адрозніваецца ад многіх сваіх сабратаў па жанру тым, што ўсе яго галоўныя дзеючыя асобы — зладзеі. Напружанае дзеянне не дае магчымасці адразу зразумець, з кім маеш справу на экране: тут ёсць яўны бандыт, інтэлігент-гуманітарый, паважаны грузінскі старац, строгі міліцэйскі чын. Кожны паводзіць сябе ў адпаведнасці са сваім іміджам — адным спачуваеш, да другіх ставішся з пагардай, пакуль не спахопішся і не зразумееш, што ўсе яны — аднаго поля ягады і адрозніваюцца толькі ступенню прафесіяналізму і стажам работы на гэтым полі дзейнасці. А тады і праясняецца асноўная думка фільма: калі справа абяцае сотні тысяч доляраў, злодзеем гатовы стаць любы...

У карціне здымаліся Алена Шаўчэнка, Дзяніс Карасёў, Георгій Дрозд, Армэн Джыгарханян, Юрый Васільеў і іншыя.

● *Кадр з фільма "Кацька і шыз".*

## "Цяпер праславіўся сын чалавечы"

Вытворчасць Кіеўскай кінастудыі імя А.П.Даўжэнкі. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык — Артур Вайцецкі.

З усёй чэхаўскай прозы апавяданне "Архіерэй", можа, найменш кінематаграфічнае. Нездарма ў розны час розныя рэжысёры нацэльваліся на яго, але далей заявак справа не ішла. У ім расказваецца пра некалькі дзён старога святаннаслужыцеля, пра яго сустрэчу з маці, непрацяглай хваробе і смерці. Памірае ён у адзіноце, нават пагаварыць амаль што няма з кім, ды і сам не дазваляе распачынаць размову. Родная маці баіцца лішні раз патрывожыць яго сваёй увагай і звяртаецца да сына спалохана-паважліва — "уладыка". Толькі думкі ды ўспаміны застаюцца яму, падводзячаму рахункі пражытага жыцця.

Айцец Пётр пакідае свет знешне спакойна і з годнасцю, але ў душы яго — неспакой. Гэта пачуццё ўзнікла тады, калі сярод тых, хто моліцца ў храме, ён заўважыў маці, якая прыехала да яго, якую ён не бачыў ужо шмат гадоў. Адразу накатваюць успаміны, мінулае, амаль забытае дзіцячае адчуванне быцця...

У галоўных ролях заняты Лідзія Яжэўская, Афанасій Качаткоў, Міхаіл Глузскі, Віталь Бенядзюк.

## "Клешч"

Гэту каляровую мастацкую кінастужку знялі кінематаграфісты творча-вытворчага аб'яднання "Катарсіс". Паставілі яе рэжысёры Аляксандр Баранаў і Бахыт Кілібаеў па свайму сцэнарыю.

Клешч — мянушка галоўнага героя фільма, капітана міліцыі Адзіля Ахтанава. У пачатку карціны мы застаём яго ў цяжкім становішчы: падазраваемым вылучана супраць яго абвінавачанне ў забойстве. І хаця ўсім зразумела, што гэта падман, Кляшча адхіляюць ад работы да высвятлення ўсіх абставін справы. Тым не менш непасрэдны шэф неафіцыйна даручае яму расследаваць загадкавае дарожна-транспартнае здарэнне, у якім загінулі работнікі ДАІ.

Вядома, ад сочкі ён ўхіляецца, даручаную справу з бляскам расследуе і ў выніку высвятляе, што і ў роднай міліцыі, і ў пракуратуры злачынцы мелі магутных апекуноў, а яго непасрэдны шэф — ледзь не глава мафіі...

Галоўныя ролі выконваюць Абдрашыт Абдрахманаў, Сяргей Папоў, Артык Джалыеў, Аліка Смехава.

## "Джокер"

Фільм зняты на кінастудыі "Флора". Аўтары сцэнарыя — Юрый Кузьменка і Юрый Пуставой, рэжысёр-пастаноўшчык — Юрый Кузьменка.

Аматары падарожжаў і загадкавых здарэнняў сустрэнуцца ў гэтым фільме, падзеі якога адбываюцца ў Сярэдняй Азіі ў першыя паслярэвалюцыйныя гады, з двума "джэнтльменамі ўдачы". Сябры-авантурысты, рамантычны, элегантны Джокер і яго крыху прымітыўны прыяцель Хрушч, які валодае старажытным манускрыптам з планам захавання каштоўнасцей, накіроўваюцца на іх пошукі. Шлях быў доўгім і нялёгкім; ім давялося прабірацца ў дзівосных скальных лабірынтах, спускацца ў змрочныя падзямеллі. Але знойдзены запаветны куфар аказваецца пустым. Высвятляецца, што не толькі нашы героі ведалі аб існаванні тайніка. Каштоўнасці паспелі вывезці мясцовыя гаспадары, якія цяпер хочуць на невялікім самалёце пераправіць багацці за мяжу.

Галоўных героеў іграюць Валерый Старожык, Вячаслаў Молакаў, Андрэй Болтнеў, Таццяна Агафонава.

*Анатомія вайсковага канфлікту*

# Як падпалкоўнік Аляксандр Кулеш быў пакараны міністрам абароны Беларусі за... добрасумленнае выкананне яго загада

**Мікола ДЗЯБЁЛА**

Складаная ўсё ж рэч вайсковая служба. Хоць, здавалася б, дзе ўжо прасцей жыць, як не ў войску. Кожная хвіліна — па раскладу, кожнае слова — па статуту, кожны крок — па загаду. Толькі добрасумленна выконвай — цябе ацэняць па заслугах. Ды не, аказваецца, не ўсё так проста. Прынамсі, у Мінскім вышэйшым ваенным інжынерным вучылішчы (МВВІВ). Тут за добрасумленнасць можна і паплаціцца, ды не толькі службовай кар'ерай, але і акладам. Як, напрыклад, выкладчык гэтага вучылішча падпалкоўнік Аляксандр Кулеш.

Зрэшты, аб усім па парадку.

❑

У кастрычніку мінулага года МВВІВ па запрашэнню сяброў Славянскага сабора "Белая Русь" наведалі маскоўскія літаратары А.Казінцаў ("Наш современник"), Э.Валодзін ("Советская Россия") і П.Ямелін ("Литературная Россия"). Як і чакалася, свае прамовы расійскія эмісары прысвяцілі не столькі праблемам літаратурнай творчасці, колькі палітычным падзеям на абшарах былой савецкай імперыі. Палітычнае крэда памянёных выданняў добра вядомае. Не была выключэннем і іх творчая сустрэча ў МВВІВ. Па традыцыі гэтыя літаратары выказалі сваё абурэнне стварэннем Садружнасці Незалежных Дзяржаў і пачалі запэўніваць вайскоўцаў у неабходнасці рэанімацыі СССР. Толькі чалавек з ружжом можа навесці парадак у былой імперыі — прыкладна так рэзюмавалі свае прамовы палымяныя змагары за аднаўленне Савецкага Саюза.

Дзіўна, але большасць з прысутных афіцэраў і курсантаў вучылішча, праўда, іх было не больш за 40, як зачараваныя слухалі гэтыя па сутнасці антыдзяржаўныя выступленні. І нават тады, калі старшы афіцэр па інфармацыі і сувязях з грамадскасцю падпалкоўнік Аляксандр Кулеш давёў да ведама маскоўскіх літаратараў і нагадаў сваім калегам, што загадам міністра абароны рэспублікі N 88 ад 03.08.92 года забаронена правядзенне палітычнымі партыямі і грамадскімі рухамі, маючымі палітычную арыентацыю, мерапрыемстваў у вайсковых часцях, установах і арганізацыях МА Беларусі, ніхто з ініцыятараў сустрэчы не звярнуў на гэта ўвагі. Тады падпалкоўнік Кулеш перадаў дыктафон, якім адкрыта вёў гуказапіс сустрэчы, свайму падначаленаму маёру Уласовічу і выйшаў з залы, каб далажыць кіраўніцтву вучылішча аб парушэнні загада міністра абароны. Далей падзеі пачалі разгортвацца, як у сапраўдным дэтэктыве. Адзін з арганізатараў сустрэчы падпалкоўнік Няфёдаў устаў са свайго месца, раптоўна схапіў дыктафон, выцягнуў з яго касету і, нягледзячы на патрабаванні маёра Уласовіча, не аддаў чужую рэч. Толькі на наступны дзень па загаду намесніка начальніка вучылішча палкоўніка Фамічова спадар Няфёдаў раптам зразумеў, што браць чужое не вельмі прыгожа, і вярнуў касету ўладальніку. Але гуказапіс быў ужо сцёрты...

Ну а паколькі дакументальных сведчанняў злашчаснай сустрэчы не засталося, то кіраўніцтва вучылішча, пэўна, палічыла інцыдэнт вычарпаным і паспрабавала зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася. Такая абыякавасць, безумоўна, выклікала абурэнне ў падпалкоўніка Куляша, і ён зрабіў допіс у газету "Во славу Родины" аб сустрэчы з маскоўскімі "прапаведнікамі" і аб "крадзяжы аўдыёкасеты падпалкоўнікам Няфёдавым з тым, каб не дапусціць абнародавання выступленняў "гастралёраў". І тут сваё бліскучае майстэрства спрактыкаванага закуліснага тактыка прадэманстраваў падпалкоўнік Няфёдаў. Ён напісаў у савет афіцэрскага сходу МВВІВ заяву, каб прыцягнуць да адказнасці падпалкоўніка Куляша за... паклёп. Падстава — спадар Няфёдаў, аказваецца, не ўкраў тую аўдыёкасету, а "изъял", як быццам бы ў яго было на тое поўнае права. Але большасць прысутных на афіцэрскім сходзе такая версія задавальняла, і яны прынялі наступнае рашэнне: "За нарушение офицерской этики (маецца на ўвазе кваліфікацыя ў газеце дзеянняў падпалкоўніка Няфёдава як "похищение кассеты". — **М.Д.**) и допущенную профессиональную ошибку (якую?! — **М.Д.**) с учетом должностных обязанностей ходатайствовать перед командованием о перемещении подполковника Кулеша по службе".

Сказана — зроблена. На падставе гэтага рашэння па прапанове начальніка вучылішча генерал-маёра Осіпава загадам міністра абароны ад 01.12.92 г. падпалкоўнік Кулеш быў назначаны на пасаду з ніжэйшым службовым акладам. Заўважым, што да гэтага інцыдэнту падпалкоўнік Кулеш не меў ніводнага спагнання (і, дарэчы, яшчэ лейтэнантам за службу на савецка-іранскай граніцы быў узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі"). І справа нават не ў грашах, як шчыра зазначыў сам пацярпеўшы, крыўдна афіцэру за тое, што расправіліся з ім у "лепшых" традыцыях мінулых часоў — "ад імя і па даручэнню" вайсковага калектыву.

❑

А ўвогуле вельмі цікавая пазіцыя ў старшыні і савета афіцэрскага сходу Мінскага вышэйшага ваеннага інжынернага вучылішча. Калі спатрэбілася "правучыць" афіцэра, у дадзеным выпадку падпалкоўніка Куляша, які падтрымлівае незалежнасць Рэспублікі Беларусь і адпаведныя загады міністра абароны, перашкаджае дзеянням іншаземных палітыкаў у беларускім войску, то ўсё вельмі хутка было зроблена, хоць і шыта белымі ніткамі.

Але ж згадваецца і іншая сітуацыя... У жніўні 1992 г. некалькі афіцэраў вучылішча, якіх узначалілі загадчык кафедры палкоўнік А.А.Паташкін і падпалкоўнік А.А.Мушта, паехалі ў камандзіроўку ў калгас імя Урыцкага Гомельскага раёна (старшыня калгаса — бацька палкоўніка Паташкіна), загітаваўшы курсантаў МВВІВ за кошт асабістага канікулярнага адпачынку папрацаваць на карысць сельскай гаспадаркі. Геніяльны ход! Афіцэры атрымалі за жнівень службовыя аклады, ім павінны былі выплаціць камандзіровачныя грошы, ну і, безумоўна, яны мелі магчымасць у час службовай камандзіроўкі дадаткова папрацаваць на папаўненне свайго асабістага бюджэту.

Гэты надзвычай сумніцельны ў маральным сэнсе выпадак, пра які ведае шмат афіцэраў, старшыня афіцэрскага сходу і камандаванне вучылішча, так і не стаў прадметам размовы на афіцэрскім сходзе. А калі, паўтаруся, спатрэбілася выкарыстаць афіцэрскі сход (які ў рэшце рэшт не адпавядае вядомаму Положению об офицерских собраниях, уведзенаму загадам міністра абароны СССР у 1989 годзе), каб "паставіць на месца" падпалкоўніка Куляша, гэты інструмент быў імгненна пушчаны ў ход...

❑

Колькі яшчэ дэмакратычна настроеных і нацыянальна свядомых афіцэраў могуць пацярпець аналагічным чынам? Тым больш што "вінцікаў" з замшэлым светапоглядам у вайсковым асяроддзі, як сведчыць афіцэрскі сход у МВВІВ, яшчэ нямала.

Увогуле, ці могуць спаць спакойна грамадзяне незалежнай Беларусі, калі афіцэры, што куюць кадры для нацыянальнага войска, з захапленнем слухаюць прамовы маскоўскіх прапаведнікаў імперскай ідэалогіі?

**P.S.** Як стала вядома, аднаму з падрыхтоўшчыкаў і прамоўцаў вышэйназванага афіцэрскага сходу падпалкоўніку А.А.Мушту прапанавана больш высокая пасада. Ці не за актыўнае выкананне пажадання сіл, зацікаўленых у расправе з добрасумленным афіцэрам?

*Это — вы*

## Меньше пить надо?

**"Наш человек" всегда любил выпить. Причем в количествах, поражающих воображение умеренных европейцев и прочих заморских гостей. И все же соотечественникам, которые вдруг задумались над тем, не много ли они потребляют алкоголя даже по эсэнгэшным меркам, советуем проверить себя по тесту, опубликованному недавно "Московским комсомольцем".**

**Ответьте утвердительно или отрицательно на следующие вопросы.**

1. Первое в жизни употребление алкоголя оставило приятное воспоминание?
2. Алкоголь для вас — средство занять свободное время?
3. Ваши друзья выпивают чаще двух раз в месяц?
4. Разговоры о выпивке вызывают у вас желание выпить?
5. Приходила ли вам в голову мысль уменьшить потребление алкоголя?
6. Появлялось ли у вас чувство вины или досады в связи с употреблением спиртного?
7. Считают ли ваши родственники, что вы много пьете?
8. Считают ли ваши знакомые, что вы много пьете?
9. Можно ли весело отметить праздник, совершенно не выпивая?
10. Бывает ли вам трудно воздержаться от приема алкоголя?
11. Были ли у вас неприятности на работе или в учебе из-за выпивки?
12. Задерживала ли вас милиция в пьяном виде?
13. Забывали ли вы после выпивки часть прошедшего вечера?
14. Случалось ли вам утром опохмеляться, чтобы улучшить свое состояние?

А теперь подведите итог.

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **нет** | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 8 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **да** | 5 | 5 | 7 | 1 | 2 | 8 | 5 | 8 | 0 | 5 | 10 | 5 | 7 | 5 |

Если вы набрали больше 15 баллов, вам стоит обратить внимание на свой образ жизни. Ни пьяницей, ни тем более алкоголиком вас назвать нельзя, но если так пойдет и дальше... Стоит задуматься!

Если же у вас более 35 баллов, то ваша страсть к выпивке стала уже болезненной. Вам нужно немедленно пересмотреть свое отношение к алкоголю.

Если полученная сумма превышает 55 баллов — отправляйтесь к наркологу. Вы, увы, почти законченный алкоголик.



## Частные объявления

**Их прочитают у нас не менее 1 миллиона человек**

### Знакомства

❤ Минчанка, 40/165/65, дочери 10 лет, ищет поддержку сердечного минчанина, можно с ребенком. 220024, Минск-24, Х-ВН 542166.

❤ Укрощенная одиночеством женщина, 33/161/60, поблагодарит судьбу за знакомство с добрым человеком, не переносящим мексиканских телесериалов. 247210, Жлобин, VII-ЛЮ 573036.

### Поздравления

❀ Дорогой, любимый ФИЛОН Павел Николаевич! Поздравляем с днем рождения. Будь счастлив, родной.

Твои Елена и Евгений.

❀ Любимая мамочка — ВАСИЛЬЦОВА Валентина Михайловна! Поздравляю с днем рождения. Желаю крепкого здоровья, счастья.

Аня.

**Телефоны для справок: 29-68-03, 29-69-04.**

# Спытайце / Спросите Юру

## І няхай не выдумляюць!

*Я атрымліваю зарплату праз аддзяленне Ашчадбанка. На мінулым тыдні касірка выдала мне 21 тысячу рублёў, астатнія грошы, кажа, дазволена браць толькі безнаяўнымі — чэкавай кніжкай альбо чэкам. І спаслалася на нейкае рашэнне нашага ўрада. Але ж гэта самавольства?*

**Валянцін СІДАРОВІЧ.** *г.Мінск.*

І вялікае глупства — з боку некаторых недасведчаных супрацоўнікаў аддзяленняў Ашчадбанка.

**— Бо сёння ніякіх абмежаванняў на выдачу наяўных грошай насельніцтву па ўкладах няма, — адказаў мне Аляксандр Баркун, начальнік упраўлення збераджэнняў, дзяржпазык і каштоўных папер Ашчадбанка Беларусі.**

Адзіная непрыемная для насельніцтва навіна: Нацыянальным банкам Беларусі абмежавана выдача беларускіх разліковых білетаў з банкаўскіх рахункаў — 2 тысячы рублёў у месяц. Астатнія можаш браць расійскімі грашыма.

## Если у вас нет белого бычка...

*Наконец-то наше правительство пошло навстречу семьям, воспитывающим детей, и отменило решение об исчислении совокупного дохода на члена семьи при назначении пособий на детей. Сколько семей из-за этого дохода потеряли право на пособие. Скажи, с какого числа отмена прежнего решения вступает в силу?*

**Нина КАВИНЕЦ.** *Могилевская область.*

До чего же мы наивны! Да, в недавнем постановлении о повышении минимальной заработной платы есть пункт: "С целью усиления материальной поддержки семей, воспитывающих детей, поручить Госкомтруду и Минфину принять решение о приостановлении на 1993 год действия пункта 24 Положения о порядке исчисления совокупного дохода на члена семьи при назначении пособия на детей . Когда же я, бодро потрясая газетой, попросил в Минфине сообщить интересующую вас дату, мне вежливо разъяснили, что временная отмена таинственного 24-го пункта вовсе не хоронит показатель совокупного дохода, а лишь несколько сужает область его применения. При начислении пособий на детей теперь не будет учитываться лишь "доход от земельного участка, предоставленного во владение, пользование либо собственность, а также реализации скота и птицы, выращенных из молодняка, переданного на откорм на договорных условиях с предприятиями, учреждениями и организациями". Только и всего. Для большинства городских семей, да и немалой части сельских ничего не изменится.

## Феміда на шалях карупцыі?

*Братка Юра. Дасведчаныя людзі мне казалі, што сталічная пракуратура сур'ёзна "трасе" асобных мінскіх юрыстаў па фактах хабару.*

**Валянціна БАРТАШОВА.** *г.Мінск.*

Так, у пракуратуры Мінска створана следчая група па фактах злоўжыванняў, дапушчаных службовымі асобамі Рэспубліканскага цэнтра па гандлю нерухомасцю, Бюро тэхнічнай інвентарызацыі, раённых натарыяльных кантор і нарсудоў. А падставай паслужылі матэрыялы Вярхоўнага суда Беларусі. У службовых падлогах замешаны і натарыусы, і суддзі — дапамагалі абысці закон пры прыватызацыі кватэр. Гаворка ідзе не пра дзве-тры сталічныя кватэры, а многія дзесяткі іх.

Ужо адхілены ад работы адзін гарадскі натарыус, дысцыплінарная калегія суддзяў накіравала ў Мінгарсавет матэрыялы на адкліканне старшыні народнага суда Партызанскага раёна. Між іншым, следства яшчэ толькі распачата.

## Вясна! Граніца "зелянее"

*З маленства марыў стаць пагранічнікам. Але наколькі я ведаю — Беларусь іх не рыхтуе. Хіба ж суверэннай рэспубліцы не патрэбны хлопцы ў "зялёных" фуражках?*

**Анатоль ШАЎЦОЎ.** *Магілёўская вобласць.*

Так, спецыялізаванага пагранічнага вучылішча ў нас няма. Але ёсць граніца. І ўжо не толькі з Польшчай. Таму, як паведаміў мне супрацоўнік прэс-цэнтра пагранічных войск Беларусі Уладзімір Несцяровіч, сёлета ўпершыню ў Мінскім вышэйшым ваенным камандным вучылішчы будуць набіраць 25 курсантаў-пагранічнікаў. Так што, Анатоль, звяртайся ў свой ваенкамат і паспрабуй мару перавесці на жыццёвыя рэйкі. Дарэчы, гэта вучылішча рыхтуе не толькі пагранічнікаў, але і спецыялістаў па ўзбраенню, сувязі, выхаваўчай рабоце, без якіх таксама на пагранзаставе не абысціся. Ёсць папярэдняя дамоўленасць з Расіяй аб падрыхтоўцы тылавікоў, медыкаў і лётчыкаў для пагранічных войск Беларусі.

## Совмин считает до пяти

*Месяц назад ты, Юра, обещал, что в конце февраля прояснится ситуация с облигациями целевого займа, советовал внимательно просматривать прессу в поисках правительственного решения. Заканчивается март. Каким будет следующий срок?*

**Иван ДУШЕНОВИЧ.** *г.Витебск.*

Долгожданное решение уже принято. Многострадальные облигации целевого беспроцентного займа 1990 года (на приобретение товаров длительного пользования) будут выкупаться с 1 апреля по 30 июня 1993 года по пятикратной нарицательной стоимости. А сдавшим свои облигации в отделения Сбербанка с 1 сентября по 31 декабря 1992 года придется снова туда зайти — за компенсацией разницы между нынешней пятикратной стоимостью облигаций и выплаченной им ранее суммой. Не забудьте захватить с собой паспорт или заменяющий его документ. Кстати, выкупаются облигации, приобретенные на территории Беларуси. Если же на ценной бумаге будет штамп, скажем, Казахстана, то облигации примут лишь от граждан нашей республики с постоянной пропиской в паспорте и по письменному заявлению.

## Кто есть где

**Список страховых компаний, зарегистрированных в Госстрахнадзоре Республики Беларусь и получивших лицензии на право ведения страховой деятельности**

**(Продолжение. Начало в NN 45,49.)**

**"Белкоопстрах"**

220004, г.Минск, пр-кт Машерова, 17. Тел. 20-78-91.

**"Белгарантсервис"**

211448, г.Новополоцк, ул. Молодежная, 145. Тел. (8-2144) 2-26-38.

**"Страховое общество СНАМИ"**

220026, г.Минск, ул. Бехтерева, 7. Тел. 46-14-42 .

**"ГУАНАКО"**

220030, г.Минск, ул. Щорса, 5, гостиница "Советская", комн. 203, 211. Тел. 26-37-40.

**"Лида-АСКО"**

231300, г.Лида, ул. Победы, 37. Тел. (8-01561) 2-95-07.

**Рубрику ведет Юрий НОЯРОВИЧ.**

